# Першы крок—на шляху Праўды.

(Экспозэ міністра Зьдеховскага).

### 8. Разумее! Прычыну!

Няма што казаць: міністар Зьдзеховскі бачыць ясна праўду таго, што ёсьць,—бачыць поўнае банкруцтва буржуазнай Польскай дзяржавы. Ен добра разумее і галоўную прычыну катастрофы. Ен слушна бачыць яе ў тэй „палітычнай ідэолёгіі“ польскага грамадзянства, якая папхнула яго захапіць аружнай сілай калісьці належаўшыя да даўняй Рэчыпаспалітай вялізарныя няпольскія тэрыторыі... Ен слушна бачыць другую роўналежную да першай прычыну катастрофы сучаснай Польшчы—у тэй „гаспадарчай ідэолёгіі“ польскага грамадзянства, якое, прывыкшы толькі панаваць, але не працаваць, і збанкрутавала гаспадарча перад вялізарнай задачай утрымаць створаную ваеннай сілай многапляменную дзяржаву... На гэта яўна не хапіла перад усім духоўных, маральных сілаў у польскага грамадзянства...

Вось што зразумеў добра, што навет сказаў, хаця, і пабаяўся дасказаць да канца,—мін. Зьдзеховскі.

Усё гэта—праўда.

### 9. Што маніцца рабіць міністар?

Праўда і тое, што цяпер у Польшчы йдзе запраўдная „рашучая бітва” між гэтай фантастычнай „ідэолёгіяй“ польскага грамадзянства і — рэальнымі магчымасьцямі і сіламі яго ўтрымаць створаную дзяржаву... Ідзе рашучая, але безнадзейная барацьба фантастычных „гістарычных правоў“—з непераможнымі законамі сучаснага рэальнага жыцьця—палітычнымі і гаспадарчымі...

Усё гэта, пэўна-ж, разумее выдатны эканаміст Польшчы... Але—што ён, разумеючы ўсё гэта, мае і прапануе рабіць, каб уратавацца ад аканчальнай катастрофы?

### 10. Усё—пастараму!

Як у прэм‘ера Скшыньскага, так і ў яго міністра фінансаў — няма ніякай сваей — новай, актыўнай праграмы. Яго праграмай зьяўляецца толькі—частковае абмежаваньне — пад прымусам недахвату грошаў — таго самага зла, тэй самай палітычнай, сацыяльнай і гаспадарчай недарэчнасьці, якая губіць Польшчу, а не зьніштажэньне зла.

З яго экспозэ ясна відаць, што буржуазная, імпэрыялістычная, шовіністычная Польшча ня хоча здавацца, але толькі часова капітулюе, адступае,—хоча зрабіць „перадышку“,—каб пасьля, набраўшыся сілаў, перайсьці ізноў у наступленьне... Ніякіх „уступак“, ніякіх пераменаў яна не абяцуе рабіць...

### 11. На што разьлічае збанкрутаваўшая буржуазія?

Чаму-ж гэта польская буржуазія ня зыходзе з таго шляху, які, як ясна для яе правадыра, прывёў яе дзяржаву да катастрофы? На што-ж яна разьлічае, калі яна ясна пачула і прызнала сваё банкруцтва?

Аб гэтым зусім ясна, з поўнай шчырасьцю кажа мін. Зьдзеховскі. Створаная чужымі рукамі сучасная Польшча і цяпер ратунку шукае, спадзяецца і чакае толькі —ад чужой — заграцічнай буржуазіі... Ураду Скшыньскага і Зьдзеховскага трэба толькі зрабіць нешта такое, каб... вярнуць у замежнай буржуазіі веру ў Польшчу, даверые да яе ўраду і — крэдыт, якія-б далі магчымасьць Польскай дзяржаве, ня маючай ужо апоры ўнутры, — утрымацца і замацавацца надалей тымі-ж спосабамі, якімі яна трымалася дагэтуль: **ваеннай і паліцэйскай сілай**... Польшча за 6—7 гадоў дайшла ўжо да таго стану, у якім была 2 апошнія дзесяцігодзьдзі гнілая ўнутры царская Расея, трымаўшаяся ўжо толькі ваенна-паліцэйскім гвалтам —за францускія мільярды...

Дык з гэтага ясна, што фінансава-эканамічная праграма мін. Зьдзеховскага — гэта праграма „перадышкі“—з мэтай адно толькі заслужыць даверые і грашовую помач замежнай буржуазіі...

Бо—ясна ўжо адно: сваімі ўласнымі сіламі сучасная Польшча трымацца і ўтрымацца ня можа...

### 12. Ня будзе „інфляцыі“!

„Ня будзе ў Польшчы інфляцыі“ (друкаваньня абязцэненых папяровых грошаў), абяцуе перад усім міністар.

Бо — „інфляцыя (слушна кажа ён) — гэта-ж уцісканьне слабых; гэта—узламываньне ўсіх касаў у краі, у якіх ляжаць зародкі ашчаднасьцяў польскага грамадзяніна, які... паверыў, што Польская дзяржава знойдзе сілы ахаваць сваю валюту ад зладзейскага замаху“...

„Інфляцыя — гэта ашуканьне грамадзяніна, які пазычыў свае грошы Польскай дзяржаве; гэта —нагарода для тых, якія... ня плоцяць у час падаткаў“...

„Інфляцыя—гэта шалеючая спэкуляцыя, гэта —заслона яля ўсялякіх „лайдацтваў“...

Запраўды-ж—залатыя словы!..

Але-ж сам пан міністар сцьвярджае, што... „адзін яшчэ крок на тым шляху, па якому ішлі польскія ўрады дагэтуль,—і „цягнік польскіх фінансаў ізноў паедзе па раскручаных рэльсах інфляцыі“...—да катастрофы! Бо „адну інфляцыю на працягу аднаго пакаленьня край яшчэ мог вынясьці. Другая інфляцыя будзе ўжо—банкруцтвам, катастрофай аканчальнай“...

І гэта—таксама залатыя словы!—Трэба толькі дадаць, што, як мы бачылі вышэй, „цягнік“ мін. Зьдзеховскага не зьмяніў ані напрамку, ані рэльсаў, якія давялі край да катастрофы... Да таго-ж, абяцуючы ўнікнуць інфляцы!, міністар зусім не сказаў—бо-ж і ня мог сказаць! — як ён зробіць гэта: скуль ён дастане грошаў на тое, каб зрабіць рэальнымі свае непадсільныя ўжо для краю бюджэты — дый яшчэ пры няўхільным далейшым спадку злотага, які ўжо пачаўся?!.

### 13. „Ашчаднасьці“ і абмежаваньні!

Навет клюбы соймавай большасьці — ня вераць у тыя „абмежаваньні“ і „ашчаднасьці“, якія суліць міністар.

Перад усім, усялякія абмежаваньні маюць мяжу, усялякія ашчаднасьці маюць рубяжы — у рэальнай вялікасьці і ваенна-паліцэйскім і бюракратычным характары Польскай дзяржавы. А мы ведаем, што міністар і не падумаў навет абяцаць якіх-небудзь зьменаў у гэтым напрамку...

Пасьля, — паміж „коаліцыяй“ павінна будзе ўзгарэцца заядлая барацьба за тое,—на чым і на кім у гаспадарстве рабіць гэтыя ашчаднасьці: на асьвеце, ці на войску, — на працоўных ці на пануючых? І барацьба гэтая ўжо пачалася. — Навет пэпэсы ня вытрымалі эндэцкіх „ашчаднасьцяў“, робленых назначаным міністрам Камітэтам, і патрэбавалі новай Камісіі Соймавай!

А галоўнае, што „апошні буржуазны ўрад“ у Польшчы ўжо залішне запазьніўся. — Тое, што ён робіць сёньня, трэба было зрабіць учора... „Ашчаднасьці“ ўжо ня будуць пасьпяваць за спадкам валюты, якую выклікае няўхільная інфляцыя—на патрэбы паньства, войска, чыноўніцтва і паліцыі.

### 14. Крэдыты для прамыслоўцаў і абшарнікаў. Падаткавы тэрор—для сялянства.

Ня зыйшоў новы лекар польскай дзяржаўнай гаспадаркі з шляху папярэдніх польскіх урадаў і ў галіне „ратаваньня“ дзяржаўнымі мерамі зруйнаванай гаспадаркі краю...

З усяго краю, у якім тры чверці складае сялянства, міністар бачыць амаль што толькі абшарнікаў і прамыслоўцаў і ім абяцуе ўсе падаткавыя палёгкі і—усе карысьці скарбовага даўгасрочнага крэдыту... Як і для Грабскага, так і для яго, — „прадукцыя“—гэта перад усім паны прамыслоўцы; „рольніцтва“—гэта абшарнікі і—добра-добра, калі яшчэ вясковыя вітасовыя кулакі ці асаднікі... Яшчэ мястовым работнікам, якіх хаця дзеля віду неяк „бароняць“ ад буржуазных жываедаў—у саюзе з буржуазіяй!—паны пэпэсы, міністар нешта суліць, — ведама-ж, пераважна дзеля таго, каб утрымаць пэпэсаў у габінэце... Але сялянству ён абяцаў, (дый ужо і выканаў абяцанку!)—рашучыя меры, бяз усякіх палёгкаў, пры спагоне падаткаў...

На тое-ж і авечкі, каб іх стрыгчы!

# Сойм.

### Сойм будзе „адпачываць“.

Урадавыя газэты пішуць, што пасьля прыняцьця Соймам найпільнейшых законаў, якія дадуць ураду, а перад усім—міністру фінансаў, вялікія паўнамоцтвы ў галіне фінансава-гаспадарчай, Сойм мае быць распушчаны на вельмі значны час,—„каб даць ураду магчымасьць свабодна, без перашкодаў з боку Сойму, вясьці сваю працу ў цяжкім палажэньні, у якім апынулася дзяржава“.

Запраўды-ж: на што ўвесь гэты Сойм, калі яго большасьць мае сваіх згодных прадстаўнікоў у габінэце, а на апазіцыю не зьвяртаюць а ніякай увагі?!

### Тры пэнсіі п. Грабскага.

У соймавых колах з абурэньнем апавядаюць, што п. міністар асьветы, Ст. Грабскі, атрымлівае з дзяржаўнага скарбу адначасна ажно тры пэнсіі: як міністар, як пасол у Сойме і... як прафэсар унівэрсытэту!

Ведама-ж, што на дзеле п. Грабскі не выпаўняе ані абавязкаў пасла, ані абавязкаў прафэсара,—а грошы плывуць, плывуць у яго кішэнь....

Ці не распачне п. Зьдзеховскі „санацыю“ Польшчы ад .. свайго калегі?!

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Ізноў Чычэрын у Варшаве.

Па дарозе дамоў з Парыжу Чычэрын мае затрымацца на некалькі дзён у Варшаве, дзе мае абгаварыць з прэм. Скшыньскім важныя справы.

### Катастрафічнае павялічэньне безрабоцьця.

Паводле афіцыяльных даных, лічба безработных за першы тыдзень сьнежня ізноў павялічылася на 12.185 асоб. Гэткім чынам агульная лічба безработных дайшла ўжо да 261.851 асоб. Безрабоцьце расьце з кожным тыднем, расьце ўсё хутчэй: за ўвесь месяц кастрычнік лічба безработных узрасла на 6.070 асоб, за адзін толькі апошні тыдзень лістападу — ужо на 10.629 асоб, а за першы тыдзень сьнежня—дык навет на 12.185 асоб.

### Далейшы спадак злотага.

У апошнія дні злоты, сьпярша паволі, а пасьля ўсё хутчэй—спадаў і ад курсу 9 злотых за даляр дайшоў 15-га сьнежня да 11.

### Ізноў—п. Пілсудскі.

Як мала сама правіца польскай буржуазіі верыць у сваю коаліцыю, даводзяць усё няспыняючыяся „чуткі аб Пілсудскім“.

Апошняя вестка, пушчаная органам буйнай буржуазіі—„Kur. Pol.“, кажа аб тым, быццам адзін з выдатнейшых правадыроў эндэцыі асабіста езьдзіў да Пілсудскага ў яго маёнтак пад Варшавай—на нараду. Эндэцкія газэты пярэчаць гэтай вестцы. Але мы ня бачым у ёй нічога дзіўнага ані немагчымага. Шукаючы „сільнай рукі“, збанкрутаваўшая буржуазія, як тонучы, можа хапіцца і за Пілсудскага, які даказаў добра, што ён значна лепш за яе ўмее „на ахвяру паньству“ асудзіць сотні тысяч працоўных.

Што датычыць згоды Пілсудскага на „паразуменьне“ з правіцай, дык—прыклад яго таварышоў-пэпэсаў гавора за лішне красамоўна. Ясна-ж, што „мастом“ ці „фактарам“ між эндэцыяй і Пілсудскім зьявіліся бы якраз паны ўрадавыя пэпэсы.

### Перамены на вышэйшых становішчах у арміі.

У польскай арміі на вышэйшых становішчах, як даносіць „Рэчпаспаліта“, маюць адбыцца вялікія перамены. У выніку іх маюць паляцець абодва заядлыя ворагі Пілсудскага — браты Гальлеры (адзін з іх ужо адстаўлены) і іншыя. Іх мейсцы маюць заняць асобы, маючыя апінію прыхільнікаў Пілсудскага.

Мімаволі насуваецца думка — ці-ж не сама „коаліцыя“ пакліча ўрэшце Пілсудскага да ўлады, як — свайго ўласнага збаўцу—дыктатара.

### Карабель тоне, мышы ўцякаюць.

Газэты падалі вестку, што міністар Публічных Работ пэпэсавец Морачэвскі падаў прэм‘еру прашэньне аб адастаўцы. Прычынай адстаўкі, як падчырківаецца газэтамі, зьяўляецца толькі хвароба пана міністра, дый не „палітычная“, а запраўдная.

З прычыны таго, што здароўе міністра ўжо шмат папpавілася, прэм‘ер ня прыняў яго адстаўкі. Дык няведама, ці п. Морачэвскі астанецца надалей у габінэце — дзеля падмацаваньня „аўтарытэтам сацыялізму“ абшарніцка-буржуазнага ўраду, — ці мо‘ „захварэе“ паважней?!

### Законапраект аб „спагоне падаткаў натурай“.

Проці сялянская коаліцыя буржуазіі з пэпэсамі пачала „працаваць“. Першым крокам яе, выразна скіраваным проці сялянства, зьяўляецца якраз законапраект, апрацаваны міністрам скарбу.

Законапраект дэлікатна кажа, што „ад рольнікаў, якія зацягнулі аплату належных падаткаў, міністар скарбу можа спагнаць належнасьць натурай — прадуктамі зямляробства, калі рольнік не заплаціць падатку гатоўкай у працягу 14 дзён пасьля сроку“. Цэны прадуктаў (збожжа, бульбы і г. д.) будзе назначаць міністар скарбу ў паразуменьні з міністрамі зямляробства і прамысловасьці і гандлю.

На дзеле, як кожнаму ясна, буцуць, замест тых палёгак, якія быццам увёў Грабскі, адбывацца павальныя рэквізыцыі сялянскага дабра па ўсім краю. Ведама-ж—грошаў на вёсцы няма зусім. Распрадажа апошняга інвэнтара, што масава адбывалася ўлетку, зруйнаваўшы дарэшты сялянства, але ня даўшы амаль-што нічога скарбу, была спынена. Дык вось, процісялянская коаліцыя буржуазіі, каб утрымацца яшчэ хаця крыху часу, рашыла адбіраць у сялянства яго апошняе дабро—хлеб, якога самому працоўнаму хлеборобу не хапае навет на зіму.

### Былы міністар—пад арыштам!

Нарэшце—пад націскам левай прэсы, выкрыўшай вялізарныя надужыцьці былага старшыні Польскай Касы Пазычкова-Зьберагацельнай і былага міністра фінансаў хіена-пястоўскага ўраду Вітаса, слаўнага п. Ліндэ,—пракуратура загадала арыштаваць яго.

Мы ўжо пісалі, як гэты пан „напазычаў“ сабе і сваім родным з дзяржаўнай Пазычковай Касы сотні тысяч злотых, як яго хэўра папросту рабавала гэтую касу „пазычкамі“ ў часы катастрафічнага спадку маркі. І дагэтуль ён і яго хэўра былі нятыкальны—дзеля таго, што ён—адзін з правадыроў эндэцыі. Толькі цяпер, пад націскам публічнай апініі, пракурорская ўлада нерэшце „арыштавала“ зладзея.

Але арыштавала зусім інакш, чым арыштоўваюць напрыклад беларускіх рэдактароў, выбарных агітатараў, ці якіх іншых „праступнікаў“. Не, — пана Ліндэ „арыштавалі“ так-званым „дамовым арыштам“. Гэта значыць папросту: пакінулі жыць у яго ўласным дому, толькі пад „словам гонору“ (зладзея!), што ён не ўця-

чэ. Калі-ж п. Ліндэ дасьць залогу 250.000 злотых, дык і гэты „арышт“ будзе зьняты. Тады — хоць сабе ўцякай з рэштай накрадзеных грошаў.

### Канец працэсу Штэйгера.

17 сьнежня закончыўся ўрэшце працэс Штэйгера, якога вінавацілі—выключна на падставе паказаньняў нейкае „конфідэнткі“ паліцыі, быццам ён кінуў бомбу ў прэзыдэнта Войцеховскага ў бытнасьць апошняга ў Львове. Працэс трываў паўтара месяца і закончыўся поўным апраўданьнем бязьвіннага Штэйгера.

### Забойства за здраду.

Як даведалася „Słowo“, у Тарнопалі (ў Галіччыне) камуністы пакаралі сьмерцяй аднаго з сяброў украінскае камуністычнае арганізацыі, Карапюка, за здраду таварышоў.

Паліцыя заарыштавала западазроных у ўчасьці ў гэтым самасудзе. Іх будзе судзіць суд прысяжных.

## Заграніцай.

### Чычэрын у Парыжу.

Прыехаўшы ў Парыж, Чычэрын меў некалькі гутарак з кіраўнікамі французскага ўраду.

### Эканамічны крызіс.

Францускае грамадзянства — у вялікай трывозе, як і польскае: француская валюта так сама, толькі яшчэ хутчэй, чым у Польшчы, спадае... Француская буржуазія, прыбраўшая сабе розныя гучныя лева партыйныя назовы і прозьвішчы, банкрутуе таксама, як і польская... Штось каля дзесятка зьмяніўшыхся міністраў фінансаў ня могуць ніяк даць сабе рады і затрымаць катастрофы франка... З усіх бакоў крытыкуюць ня толькі няздольны ўрад буржуазнай лявіцы, але і сучасны склад парляманту. З усіх бакоў чуваць галасы з заклікам да стварэньня „сільнай улады“ ў Францыі. Фашызм разьвіваецца не па дням, але па гадзінам.. Спакойныя газэты, як „Matin“, б'юць трывогу, заклікаючы да стварэньня „камітэту публічнага ратунку“, якому трэба даць дыктатарскія паўнамоцтвы... Нават орган урадавага „паразуменьня лявіцы“ „Ere Nouvelle“ піша, што блок лявіцы—ня зьдзейсьніў пакладаных у ім надзеяў, і—дамагаецца новых выбараў па новай выбарнай сыстэме..

Правыя газэты з трыумфам параўноўваюць „балянс“ ураду Пуанкарэ з вынікамі ўрадаваньня блёку лявіцы... Пуанкарэ пакінуў курс франка — 70 за 5 даляраў, а лявіца давяла яго да 135 (амаль не ўдвая ніжэй!). Падаткі Пуанкарэ павялічыў на 20 працэнтаў, а лявіца—аж на 100 (удвая).

У парляманьце кажуць, што, калі франк не затрымаецца, дык выйдзе ў адстаўку і апошняя надзея лявіцы, яе міністар фінансаў Люшэр... І тады Брыян, прызнаўшы банкруцтва фінансавай думкі буржуазнай лявіцы, пакліча да працы на гэтым полі—фінансістаў правіцы... Нахіл управа— вось апошняя мудрасьць буржуазнай правіцы, спалохаўшайся рашучых дамаганьняў францускіх сацыялістаў... Але-ж ясна, што гэта—мудрасьць капітулюючых банкрутаў... Бо мы-ж ведаем, да чаго давяло край і панаваньне буржуазнай правіцы..

Словам—абраз развалу і панікі ў Францыі — зусім падобны, як і ў Польшчы..—Бо-ж усюды аднолькавыя азнакі і вынікі тэй „францускай хваробы“, якой хварэе ў Эўропе буржуазія..

### Француская ўлада ў Сірыі і Марокко.

Катастрофа францускіх фінансаў, ведама-ж, ёсьць простым вынікам імпэрыялістычнай палітыкі ўраду Францыі—на яе „Крэсах“ — у каленіях. Каштоўная вайна ў Сірыі і ў Марокко ідзе далей. Толькі што высокі камісар Францыі ў Сірыі заявіў, што „ў Сірыі ўсё спакойна“... Але з ангельскіх крыніц ідуць весткі аб новых вялікіх стратах французаў, якіх тысячамі выразаюць быццам ужо „мірныя“ друзы... А сам камісар — быццам у адказ на сваю заяву!—атрымаў некалькі „прысудаў сьмерці“—для сябе і для найвышэйшых францускіх урадоўцаў у Сірыі.

У Марокко быццам пачаліся падрыхтаваньні да мірных перагавораў, але — ці яны дайдуць да скутку і—ці не пачнецца ізноў вайна, няведама!

### Урадавы крызіс у Нямеччыне.

Прэзыдэнт Рэспублікі запрапанаваў павадыру дэмакратаў доктару Коху злажыць габінэт. Той прыняў прапазіцыю. У які бок больш будзе кіравацца праца стварэньня ўрадавай коаліцыі—налева, ці направа,—пакуль што няведама...

### Завастрэньне адносінаў між СССР і Японіяй.

Амэрыканскае агенцтва даносіць, быццам у Манчжурыі гатуецца вайна між Японіяй і СССР. Павадыр манчжурскай рэвалюцыйнай арміі Куонг-Сун-Лін ідзе на Мукдэн, каб, захапіўшы яго, абвясьціць там Манчжурскую Радавую Рэспубліку. Каб ратаваць сталіцу Манчжурыі, дзе Японія гаспадарыць, як у сябе ў хаце, японскі ўрад паслаў туды з Карэі 2 дывізыі, якія сьпешна ўмацоўваюць падступы да Мукдэну і лінію паўдзённа-манчжурскай чыгункі.

Амэрыка і Англія былі-б вельмі здаволены, каб СССР і Японія чым мацней пачубіліся і тым аслабілі-б адзін аднаго... Але вось радавы пасол у Токіо Копп заявіў японскаму ўраду афіцыяльна, што, ня гледзячы на ваенныя меры СССР на Далёкім Усходзе, ня можа быць мовы аб тым, каб яны былі скіраваны проці Японіі. Ведама-ж, што СССР ня можа толькі дазволіць каму-б то ні было гвалціць волю і вольнасьці кітайскага народу, з якім СССР, як ведама, заключыў ваенна-саюзны дагавор...

### Канфэрэнцыя Малай Антанты.

Чарговая канфэрэнцыя міністраў Малай Антанты (ваенна-палітычнае паразуменьне, штось у родзе саюзу трох дзяржаў Чэха-Славакіі, Югаславіі і Румыніі—у мэтах узаемнай забясьпекі) мае адбыцца 15—20 студзеня. Канфэрэнцыя мае абгаварыць небясьпеку з боку ўзнаўленьня манархіі ў Вэнгрыі і пытаньне аб адносінах да СССР.

---

## Фэльетон, або запутаныя, брат, справы...

Кожны ведае, што дзеецца ў сучасны мамэнт у Польшчы... Крызіс, крызіс, крызіс!.. Вераб'і — і тыя, каб прыслухацца, чырыкаюць: Кры-зіс, кры-зіс,...

Як гэта? У Польшчы!?

Але, але: кры-зіс.

---

Прыходжу я гэта да майго Сьцёпкі (ведаеце Сьцёпку!..). Стукаюся, стукаюся, аж абцас адляцеў (ён, гад, у часе крызісу не адчыняе, а, набраўшыся „хрысьціянскае“ цярплівасьці, — слухае мой стук!).

Няма!

Аж вось спаткаў яго на Вялікай вуліцы. Убачыў мяне яшчэ здалёк (хацеў ізноў уцячы, але дзе!).

— Ах, як даўно! Колькі зім!? Брат, пазыч 50—злотаў!

— Ах, добры дзень! Як жывеце? А я лётаю ўсё з гэтымі канцэртамі. — Сёньня-ж выступае — гэты... Спраў, спраў аж па нос... Чорт ведае што! Ну, бывай!

— А? —

Маеш табе! Раз! Два! Той! Шух! Дзе мой Сьцёпка? А!—вун ён у канцы вуліцы, падняўшы ногі!.. ха-ха!..

---

Крызіс, крызіс, крызіс...

Але нічога! „Терпи, пусть кушают пирог... пусть взор горит слезой“. Яшчэ: „Терпи козак — атаманом будешь!“. Яшчэ: Церп, церп, душо моя— бэндзеш збавёна“...

„Галадаць на вуліцы—колькі хочаш, а есьці —няпрыстойна“. Ха-ха!., Спэцыяльнае выражэньне! Тут-бы, здаецца, сеў на пляцы ды еў хлеб, якога няма, няма—і... няма!

Прыходзіцца толькі зрабіць нейкі скандал, каб папасьці ў „казённае заведеніе“ (вядомыя Лукішкі) на „państwowy“ хлеб.

Але нічога!

---

Банк і ўрад напяваюць „утешительные“ песенькі...

„Нічога, значыць, панове, а ну-ж ды Францыя (друг, прыяцель верны, — разам дзелім і радасьці і няшчасьці і... крызісы!..), а ну-ж ды дасьць пазыку?! Усё магчыма! То-ж „cud“ над Віслай быў! Вера! Усё на веры! Што думаеце: каб людзі верылі, дык і цуды часьцей былі-б! Бяз сьмеху!

А банкі пяюць далей:

„Панове! не ўпадайце ў паніку! Хочацца есьці—пацярпіце — зацісьніце жывот тугнікам, а мо' перастане хацецца есьці?!. Вера! толькі вера! Маліцеся Богу, а там... (аблупім скарб і,..)—...

„Панове! цяжкі час, але... — То-ж сказана: „усе галодныя і прагнучыя — на небе будзеце пірагі есьці!“... (Мой Сьцёпка — пабожны з пабожных, ды і той кажа, што на небе паветра, а тут— пірагі! Цікава!).

„Панове, калі ў аднаго патаўсьцее брух, а ў другога ня будзе хлеба — гэта глупства! Усё на сьвеце ня вечнае! На небе—вечнасьць і... пірагі!“.

---

Усё глупства. Дайце аддышацца! Такое здарэньне:

Іду па вуліцы. Думаю: от, чорт, дзе-б раздабыць грошы?... Раз! Чуць звошчык не наехаў... Задумаўся—усё паганы крызіс! Зараз паліцыянт (а хто з імі не знаёмы?):

— „Як пана назьвіско? —

Кажу.

— Дзе пан мешка?

— Кажу.

— „Нех пан пуйдзе до камісар'яту“.

Тррр!.. Дудачкі!

— Не, не пайду! Што я — задумацца не магу?! Вы мне далі грошы? каб я пяяў „туды-руды?“. У імя сьвятой праўды...

Тут грамада людзей... тое, сёе...

— „Пан большэвік!“

Маеш табе раз! Пачалося з глупства, а дайшло да чаго? І паверце, што, каб я ня кінуў сварыцца, то зараз-бы знайшлі „materjalne“ довады і... раздзьмухалі-б цэлы працэс!..

Што-ж парадзіш?

---

Між іншым патрыёты ня сьпяць... Учора прылятае да мяне нейкая баба (ня думайце што з неба?!) і, ня здолеў я аглянуцца, як:

„Афяруйце... тое-сёе, на сэрца Езуса — пяць злотых... Прыдзе пан Езус у хату, будзе памагаць і т. д.

— А? Як? Як вы на гэта?

## Дамагайцеся сваей роднай школы!

### ГРАМАДЗЯНЕ!

1. Памятайце, што дэклярацыі аб жаданьні беларускай школы трэба падаць да 31 сьнежня (декабря) гэтага году, каб з восені наступнага 1926 году школьная ўлада адчыніла беларускую школу там, дзе няма ніякай школы, або перарабіла істнуючую польскую школу ў беларускую.

2. Дэклярацыі павінны быць уласнаручна падпісаны бацькамі, або, калі няма бацькі, маткаю, або праўным апякуном у прысутнасьці войта, і гэты подпіс павінен быць заверany войтам.

3. Дэклярацыяў па закону 31. VII. 1924 г. трэба складаць ня менш, як на 40 дзяцей з аднаго школьнага абводу, гэта значыць з тых вёсак, якія адносяцца да тэй ці іншай школы, але лепш, каб было складзена як можна больш.

4. На аднэй дэкляраціы можна пісаць па адно, два, тры і чатыры дзіцяці—у веку ад 7 да 14 гадоў.

5. Дэкляраціы павінны быць зданы паўнамоцнікам пад расьпіску інспэктару да 31 сьнежня г. г. па сьпіску, а копія сьпіска і паўнамоцніцтва перасланы ў Цэнтральную Беларускую Школьную Раду.

УВАГА: Калі-б інспэктар адмовіўся прыняць дэкляраціы, то трэба яму пераслаць заказным лістам па пошце і копію расьпіскі з копіяй сьпіску таксама прыслаць у Раду.

6. Калі ў тым ці іншым абводзе ўжо склалі дэкляраціы, і школьны інспэктар адказаў, што застаецца і далей польская школа, трэба ізноў падаваць дэкляраціы аб жаданьні беларускай школы і як можна больш.

7. Войт, на падставе распараджэньня міністра ўнутраных спраў ад 12 лютага г. 1925 г., мусіць і пры тым зусім бясплатна завяраць подпісы бацькоў на дэкляраціыях.

УВАГА: Калі-б войт адмовіўся завяраць подпісы, то трэба напісаць скаргу ў Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду ў Сойме або ў Беларускі Пасольскі Клюб і далучыць да скаргі ўсе дэкляраціы, каб нашы паслы іншым шляхам склалі гэтыя дэкляраціы інспэктару.

8. Аб усіх перашкодах пры завярэньні падпісаў у гміне і пры складаньні інспэктару ці то з боку паліцыі ці адміністрацыі ці вучыцялёў і іншых безадкладна паведамляйце нашых паслоў і Школьную Раду.

9. Копіі сьпіскаў дэклярантаў прысылайце ў Школьную Раду.

10. Дэкляраціы выпісвайце з Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады, Вільня, Віленская вул. № 12—6

Ц. Б. Ш. Р.

---

Чысьцейшае формы сярэднявечча!.. Цярпеў я, цярпеў, ды як пачну: „К чорту! ня маю грошы“!

А такая, ведаеце, бабёнка з чэмаданчыкам такім...

„Ciężkie czasy“...

Крызіс—трэба ратаваць кішані ўраду.

---

Я вам раскажу аб няшчасным... ах! не! Што я? от, чорт! і як гэта вырвалася, от, далібог! Хацеў сказаць: „аб сучасным“, а тут... ой, зараз арыштуюць, палічаць за камуніста, — шчасьце йшчэ, што нікога няма!—ото—аж у жываце забалела...

Ды які там расказ... аб тытуну! — Пасадзіў мой віленскі зямляк тытун. Прышлі, вырвалі...

Чыстая праўда, вырвалі... і штраф назначылі...

А то што?! Гэта—глупства! Сягоньня прыйшоў я на пошту кінуць пісьмо. Покі купіў марку,—мой партманэ апынуўся ў кішані невядомага, незнаёмага чалавека, — можа пацярпеўшага ад крызіса?!...

Ну, чорт з ім! Дзе наша не прападала!—казаў Чэхаў, скажам і мы...

---

З майго дняўніка...

Сьнежань 1925 г.

Крызіс... Сягоньня было цікавае... Крызіс...

От, чорт, у галаву ўбіўся.

...Цікавае здарэньне... Крызіс. Ахвота есьці! Голад разьвіваецца! Каму здаецца, што голаду няма,—ёсьць! Няпраўда! голад,—гэта, калі ахвота есьці! Уначы сьніў пірагі. У жываце, здаецца, канцэрт... На барабане хтось лупе, адзін на флейце іграе...

К чорту! кіну пісаць, а то яшчэ звар'яцею! Толькі злосна, што адзін сыты, а другі бяз хлеба!..

**Безработны беларускі вучыцель.**

P. S. Для нас, вучыцялёў беларусаў, крызіс асабліва цяжкі, бо работы ў нас няма, школы адчыняць не дазваляюць, думаць не даюць.... Хадзіць трэба асьцярожна, бо яшчэ „bolszewikiem“ палічаць...

Крызіс!

Вераб'і пад вакном заліваюцца.

„Кры-зіс! Кры-зіс!“

1925 г.

# ХРОНІКА.

**Суд над сялянамі.** На 17 і 21 сьнежня назначаны разгляд у віленскім судзе справаў сялян з Піншчыны (вёскі Кавалікі і Агароднікі), абвінавачаных у камунізьме.

**Нагарода за Беларускія тканіны.** На міжнароднай выстаўцы дэкорацыйнага мастацтва ў Парыжу ў польскім аддзеле былі выстаўлены сабраныя ў Лідзкім павеце беларускія народныя тканіны. Ведама, запісаны яны былі як „вырабы польскага люду“.

Як падаюць віленскія газэты, за гэтыя вырабы прысуджана нагарода: срэбны мядаль.

**За спогад Беларусам.** Рэктар віленскае праваслаўнае духоўнае сэмінарыі, япіскап Антоні, які вёў энэргічнае змаганьне з апалячываньнем сэмінарыі і дамагаўся зьбеларушчаньня яе, па загаду ўлады пераносіцца з Вільні ў Крамянец....

**Віленшчына нарэшце... ваяводзтва!** 14 сьнежня Сойм, па дакладу п. Зьвежыньскага (віленскага эндэка), прыняў апрацаваны мін. Рачкевічам „важны“ закон... аб зьмене назову Віленшчыны з „Адміністрацыйнага Округу“ на—ваяводзтва.

**Безрабоцьце ў Вільні.** У працягу апошняга тыдня лічба безработных у Вільні дайшла да 4,150 асоб. За гэты тыдзень узрост безрабоцьця выразіўся цыфрай 385 душ.

**Звальненьне жаўнераў 1903 г.** Паводле афіцыяльных вестак, маюць быць звольнены зусім з арміі яшчэ перад сьвятамі рэкруты 1903 г. Гэтая мера прынята ў зьвязку з радыкальнай эканоміяй у бюджэце польскай арміі. Жаўнеры гэтарочнікі праслужылі ў арміі ўсяго 14 месяцаў.

**Справа падпракурора Гурчына.** Справа падпракурора Гурчына, які пакраў скарбовыя грошы, мае разглядацца ў віленскім акружным судзе (дзе йшчэ так нядаўна гэты пан сам абвінавачываў людзей!) 8 студзеня 1926 г.

**Магамэтанскі зьезд.** У канцы гэтага сьнежня ў Вільні мае адбыцца зьезд магамэтанаў з усяе Польшчы, каб утварыць агульную царкоўную арганізацыю і выбраць муфтыя і яго заступніка.

Гожа адзначыць, што магамэтане, якія ў нас жывуць, гэта патомкі тых татараў-нявольнікаў, якіх некалі пасяліў тутака, надзяліўшы зямлёй, вялікі князь Вітаўт. Татары хутка перанялі беларускую мову і нават свае сьвятыя кнігі пісалі пабеларуску, хоць і арабскімі літарамі.

Цяпер беларускае мовы трымаюцца толькі бяднейшыя татары, якія працуюць на ральлі. Інтэлігенцыя-ж іх, якая за часоў расейскага панаваньня гаварыла парасейску і была вернай маскоўшчыне, цяпер—пад Польшчай — загарэлася польскім патрыатызмам....

**Біскуп Матулевіч—у Коўні.** Былы Віленскі каталіцкі біскуп Матулевіч назначаны Папай арцыбіскупам у ковенскую эпархію.

## Беларускі палітычны працэс у Пінску.

19.XI. 1925 г. ў пінскім акружным судзе разглядалася справа сялян-беларусаў у ліку 28 чалавек, якіх абвінавачвалі з 102 арт. ч. I і 126 арт. К. К. і аб якіх інтэрпэлявалі ў сваім часе беларускія паслы ў Сойме.

Працэс гэты быў „зроблены“.

Як робяцца беларускія палітычныя працэсы, хіба-што кожнаму чытаючаму беларускае газэты ведама.

Але гэты працэс – працэс асаблівы, бо ён зьнімае маску з польскай партыі (Польскай Партыі Сацыялістычнай), ня кажучы ўжо аб агентах улады.

На працэсе выявілася вось што.

Пачаткам абвінавачваньня паслужыла правакацыя пэпээсаўцаў. Сам **шэф палітычнай паліцыі п. Будзіньскі сказаў, што ён усё ведае са слоў** пэпээсаўцаў.

Некаторыя з абвінавачаных былі сябрамі ППС і энэргічна працавалі ў часе выбараў у Сойм і Сэнат, агітуючы за ППС.

Калі-ж былі апублікованы ўставы аб школах і сяляне — цяпер абвінавачаныя, а тады сябры ППС—зьвярнуліся з просьбай да ППС аб помачы, каб адчыніць беларускую школу, дык пэпээсы адмовіліся. Тады сяляне зьвярнуліся да Цэнтр. Бел. Школьнае рады ў Вільні, куды навет быў пасланы прыгавор ад в. Купяцічы—пасьля атрыманьня дэкляроцыяў і інфармацыяў з Бел. Цэн. Школьн. Рады ў Вільні.

Вось тады-то пэпээсы і ўбачылі, што іх палёнізацыйныя мэты ня зьдзейсьняцца, што яны траццяць грунт пад нагамі, і тады-то і заявілі яны ў палітычную паліцыю, што сярод іх партыі ёсьць „камуністы“. Дасталі гдзесьці брашураў і сьцягаў К. Б. З. Б. і з тых, што дамагаліся беларускае школы, зрабілі актыўных „камуністаў“.

І вось 7.II. 25 г. ў в. Купяцічы, Бінкаўскай вол., у той вёсцы, што першая дамагалася беларускае школы,—пачаліся арышты. Арыштавалі 33 чалавек, але 5 з іх звольнілі, „wobec braku dowodów“.

У паліцыі пачаліся мукі, зьдзекі і гэт. п., але, відаць, гэта не памагло—сяляне не падпісвалі загадзя прыгатаваных пратаколаў. І вось тутжа выступіў на арэну таварыш пракурора пан Зьміеўскі, які змушаў арыштованых падпісваць раней прыгатаваныя пратаколы; далей вёў яго работу судзьдзя пры акруж. судзе п. Павлюць.

Правакатар-шпік, які зрабіў у значнай меры гэты працэс, на суд,—як гэта ў нас заўсёды бывае, — не зьявіўся; ясна, баяўся, што на судзе праваліцца.

„Пачэснае“ месца ў правакацыі заняў кам. пастар. у Бінкавічах—Павал Казлоўскі (—праваслаўны), але яго правакацыя на судзе выкрылася.

У характары сьведкаў з боку абвінавачаных былі два пэпээсаўцы: п. Дзенгелеўскі і Воліцкі, якія пад рознымі прычынамі на суд ня прыехалі бараніць тых, што аддалі за іх свае галасы.

Пасьля трох-дзённага разбору справы суд засудзіў Духлінскага, Гіка Макара на тры гады катаргі, Ловіча на 2 гады, Мініча Хведара на год крэпасьці — залічваючы апошнім $9^1/_2$ месяцаў дасудовай адседкі.

Баранілі адвакаты Шыманскі і Беленц з Варшавы, якія ўсе сілы палажылі, каб сарваць маску з паліцыі і ППС; ад ураду баранілі пінскія адвакаты Сьмігальскі, Гутоўскі і Бэрг.

Дык вось і жыцьцё! За дамаганьне роднае беларускае школы пэпэсы ўпакавалі—не дзяцей у родную школу, але—бацькоў у катаргу!

**Піньчук.**

## Карэспандэнцыі.

### „На чорную дошку“.

(З падарожжы па Дзісеншчыне)

Праездам па Дзісеншчыне, папаў на кірмаш у Празароках. Пытаюся ў людзей аб тым — аб сім,—а больш пра „сэзонныя“ балячкі. На ўсё жаляцца сяляне,—ведама, такая ўжо пара, што хваліцца няма чым.

Жаляцца і на школу. Ужо больш за два месяцы ходзяць іхнія дзеткі ў Празарокі да школы, а карысьці дык ніякай няма. „Толькі, кажуць сяляне, выправім дзяцей да школы—ажно ўжо за паўтары—дзьве гадзіны вяртаюцца дамоў.

Што гэтак хутка?—пытаюся.

„А вось, троху нешта напісалі, потым пасьпявалі „miałeś chamie złoty róg“ і да хаты“.

„А ці пытаўся вучыцель у вас лекцыі?“.

„Не—кажуць — яшчэ ніразу, як ходзім у школу, дык ня пытаўся ні чытаць, не глядзеў і нашых сшыткоў“.

А як глядзеў наш Мікола (ён троху маракуе папольску) у сшыткі сваіх дзетак, — дык дзіву даўся!.. Відаць, што перапісываюць нешта з кніжкі, але сяньня з пачатку кнігі, заўтра з сяродку — там гдзе дзіця ніколі і ня чытала. Як піша дзяцёнак, відаць, што на гэта паны вучыцялі і не зварачаюць увагі. А як глянуў у сшыток па арыфмэтыцы, дык і абамлеў, а тамака, далі-бог, гэтак стаіць:

10—8=18

10—7=17

10—6=16

І гэтак у ўсіх дзяцей.

Залішне будзе ўжо і цытаваць словы сялян. Ясна, як Божы дзень, што паны з „Галілеі“ (бо абодва вучыцялі з Галіцыі) ня цікавяцца паглядзець, што і як піша вучань. Яшчэ калі вучань здальнейшы і багацейшы, дык пан кіроўнік (Божына) і займецца троху з ім, а на слабейшых дык не зварачае зусім увагі. Дык глядзелі,—кажуць, — людцы на гэтакую навуку — ды і пачалі па вёсках самі так-гэтак вучыць сваіх дзетак.

Дык Бог у помач, добрыя людцы, — не марнуйце часу, вучыце сваіх дзетак добрага, сьветлага, а ня нейкім „хамам з залатым рогам“, тады і яны будуць ведаць, што 10—8 ёсьць 2, а не 18. **Зязюля.**

## Беларусы у Аргентыне.

Учора я атрымаў з Буэнос-Айрэса ў Аргентыне такое пісьмо:

„Наколи хоч трошка любите свій нарід, то остерігайте його перед так великими промахами, як виїзд з вітчини на заробітки в південну Америку. Я тут много стрічав Білорусинів з білоруських повітів, які загарбыла Польща напр. з Гродна. Прыіхалі тут за кращою долею. Гей, брате, не знав ти чим пахне це Аргентина, аж тепер пізнаеш. Голій, босій, голодній, 6 дітій і жінка і без роботи сів під мур тай зажурився. Каже, що ляхи гооблять... Чи я цего незнаю? Але що-ж вдіеш, коли тут біда і чужина тимбільше для такого, що не знае тутешивоі, еспанськоі мови.

Я сам украінець з Галичины з під Гусятина над Збругем. Приіхав сюда заставлeній політичнимі відносинами. Тут ледви за претепціею стараго переселенца я достав посаду в одному німецкому корабельному бюрі. Але богато причинилось до цього, що знаю мову німецку і ще латинську, що помогло мені до скорого вивчения еспанськой мови;—бо-ж латинська мова мае богато в собі подібного до еспанськой. Як напр. білоруська до украінськоі, або іншоі славянськоі мови.

Але меньше з тим. Досите, що біда. А ще як наш селянин або білоруський скаже, що „Rus“—пропав тоді... тут „Rus“ послідний голодранец і пьяница в очох аргентинців.

Добре думаю, колиби Ваши білоруськіе паслы відносились до аргентинскаго міністерства внутрішних справ з поясненням, що Білорусин не е москалем, а окромі собі „знають вже що украінец то „ukrsniono“ і з москалем не мае нічого спільнаго і це вже більше користне для нас. Але найлучше відноситься до аргентинськаго консуляту в Ревелі що до цього, пояснення.

Білорусини не проявлять тут ніякого суспільного життя. Е товариства украінські і московські, але білоруських брак, а то тому, що нема Білорусинив—інтелігентів, щеб дали почин до якось націянально білоруськоі роботи. Крім того залучую на Ваше проханя статю до поміщення в білоруських і московських часописях.

Кінчу—з поважаньннем

**Марак Володимир.**

P. S. Дуже радо уділю Вам всяких інформацій про аргентинську, як будете більше писати. Прошу прислати мне білорусиньски часописи, як ласка.

Буэнос-Айрэс. 28./X. 1925 г. **М. В.**

З увагай **Мікола Чарвякоў.**

*Рэваль.*

## Паштовая скрынка.

Мікалаю Лебядзінскаму: Маеце аплочана па 15/III 1926 г.

Язэпу Трыбухоўскаму: Просьбу вашу спаўняем і газэту высылаем далей.

Алякс. Бохану: Маеце аплочана па 1/II 1926 г.

Яну Рымару—10 зл. мы ад Вас не атрымалі.

**Атрымана.**

Ад:—К. Сецевінца, Канст. Хітро, Сымона Сляўкі, Тодара Ждановіча, Я. Натусэвіча, Тодара Юруца, Буфэту ў Стоўпцах, Рамана Дараховіча, Яна Парчука, Е. Юрчука, Аляксандра Кішкеля, К. Сьветавастокава, З. Любоўскага, Антона Хоміча, Нікандра Цытовіча, Кандрата Протаса, В. Емяльянчыка, Яна Сычэва, Ігната Комука, Вінцука Янковіча, Аляксея Мамая, Мікалая Замулкі, Майсея Гарасікава—**па 2 злотых.**

Ад: — Пятра Крываблоцкага, К. Цалея, Язэпа Транейкі, К. Шымкевіча, Мікалая Бохана—**па 3 злот.**

Ад: — Уладзіміра Крэня, Паўла Новіка, Паўла Самайловіча, Станіслава Юцкевіча, Антона Міpaновіча, Канстантага Буцькі, кс. А. Коўша, Аляксандра Завацкага, С. Булаўчыка, Мікалая Лебядзінскага, Аляксандра Гірыса, Мікалая Бабарыкі, Аляксандра Бакача, Васіля Чэбатара, Язэпа Санчука—**па 5 злотых.**

Ад: — Аляксандра Пяткевіча, Мікалая Лук'янца Сымона Жынгеля, Канст. Кайло, Мікалая Герасімчыка, **па 6 злотых.**

Ад:—кс. Паўла Анопа, Пятра Шырана, Уладзіміра Царука, Пятра Альшэўскага—**па 8 злотых.**

Ад:—Міхала Макарэвіча—3 зл. 10 гр., Язэпа Рагача—12 зл., Сідара Грышчука—9 зл., Яна Таранкі—9 зл. 80 гр., Гальяша Апалько—6 зл. 40 гр., Базыля Сенкевіча—6 зл. 20 гр.

**Падпішчыку № 1610.**

*Запытаньне*: Як адчыніць бібліатэку?

*Адказ*: У хуткім часе мае быць зацьверджаны Статут Т-ва Беларускай Школы на ўсю Польшчу і на падставе гэтага Статуту можна будзе лёгка адчыніць бібліатэку-чытальню. Будзе адчыняць Цэнтральная Беларуская Школьная Рада, якую Вы павядоміце: дзе, у чым доме будзе бібліатэка-чытальня, хто будзе ею загадваць і ў якія дні і гадзіны будзе адчынена.

Адрэс: Цэнтральная Беларуск. Школьн. Рада. Wilno, Wileńska 12—6.

**Грам. Чорная Сьвітка.**

Ад Вас ўсё атрымана. Будзем карыстаць, пішэце. Доўг Ваш выкасоўваем і газэту высылаем.



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.** Друкарня **Н. Левін і Сыч**, Вільня, Нямецкая 22.